# Свабоду палітвязням!

## Бюлетэнь прысвечаны беларускім палітвязням

## Улады рыхтуюць вызваленне Дашкевіча?



**Жонка палітвязня нагадвае, што той меўся выйсці на волю 19 снежня 2012 году з калоніі агульнага рэжыму. Цяпер жа, чакаецца ягонае вызваленне з гарадзенскай турмы строгага рэжыму.**

Да **Насты Дашкевіч** патэлефанавалі з Першамайскага РАУС і пыталіся ў яе і ейнага бацькі, ці яны не супраць, каб пасля вызвалення Зміцер жыў у іх на кватэры. Пра гэта Наста Дашкевіч напісала на сваім профілі ў “Facebook’у”.

Прычым міліцыянты папрасілі таксама Насту нагадаць Змітру пасля яго вяртання, каб той завітаў у РАУС. Гэта дае падставу меркаваць, што вызваленне павінна адбыцца неўзабаве. У 2008 годзе, падчас папярэдняй адлігі ў адносінах паміж Менскам і Еўразвязам, лідара “Маладога фронту” выпусцілі за паўтара месяца да заканчэння тэрміну.

*“Па гэтых званках ясна, што турма рыхтуе дакументы на нагляд. Цымус адсутнасці рэабілітацыі ў тым, што Зміцер, каторы з 19 снежня 2010 года ў турме, калі выйдзе па сваім званку, на што я вельмі спадзяюся, будзе мець нагляд, знаходзіцца ў іх пад кантролем і калпаком. Ну там не ведаю: за мяжу выезд забаронены, за межы Менску таксама, а 22-й быць па месцу рэгістрацыі і г.д. То бок, вось нельга так адседзець свой срок да званка і “аддзелацца” ад іх? А колькі таго нагляду дадуць? Год? Два? Да наступных прэзідэнцкіх?”*, – напісала Наста Дашкевіч.

Змітра Дашкевіча пасля дадатковага тэрміну за “злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі калоніі” мусяць вызваліць з-за кратаў праз 2 месяцы, напрыканцы жніўня.

***belsat.eu***

## Ігару Аліневічу дазволілі доўгатэрміновае спатканне з бацькамі

**Бацькі палітзняволенага Ігара Аліневіча мелі з сынам працяглае спатканне ў калоніі №10 горада Наваполацка.**

Ігар Аліневіч асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі.

Па словах **Валянціны Аліневіч**, сустрэча з сынам працягвалася адныя суткі ў пакоі, які быў не большы за 10-12 квадратных метраў, без дазволу яго пакідаць. Ва ўмовах спёкі гэта было цяжкім выпрабаваннем:

*- Ігару, як заўсёды прывезлі марозіва, якое ён бачыць толькі падчас доўгатэрміновых спатканняў. Выглядае ён нармальна, мне нават падаецца, што ён стаў вышэй ростам, ці гэта я ад гэтых усіх праблемаў маленькая стала, не ведаю. Кажа, што ўсё нармальна, працуе. Яму падалося, што тыя людзі, з якімі ён размаўляе, пасля падвяргаюцца перасьледу.*

Па словах Валянціны Аліневіч, яе сын атрымаў два лісты з Бабруйска, аўтары якіх угаворвалі яго напісаць прашэнне аб памілаванні на імя прэзідэнта.

*“Сын парваў і выкінуў гэтыя лісты. Ён сказаў, што лічыць вельмі непрыстойным, калі нейкая кропка гледжання навязваецца людзям, якія прайшлі праз цяжкія выпрабаванні і знаходзяцца ва ўмовах няволі”*, – кажа Валянціна Аліневіч.

***racyja.com***



## Натальля Радзіна: “Здароўю і жыцьцям палітвязьняў пагражае сур’ёзная небясьпека”



**Сёньня досыць шмат словаў гучыць пра тое, што неабходна патрабаваць вызваленьня палітвязьняў ў Беларусі, але амаль не агучваецца пра тое, ў якіх ўмовах за кратамі знаходзяцца вязьні сумленьня. Рэдактарка сайту “Хартыя-97” Натальля Радзіна не адзін месяц правяла ў так званай “амэрыканцы” – СІЗА КДБ. Пра катаваньні і ў тым ліку ў дачыненьні да палітычных вязьняў рэсур піша досыць часта. Пра гэта, ды іншыя аспекты журналістка распавяла сайту palitviazni.info**

**Натальля Радзіна:** *Можна сказаць, што ціск на палітвязьняў ўвесь гэты час толькі ўзмацняецца. А на сёньняшні дзень ўмовы іх знаходжаньня за кратамі можна прыраўняць да катаваньняў. Па-першае, вязьняў ўтрымліваюць ў нечалавечых ўмовах. Часта кідаюць іх ў карцэры, камеры-адзіночкі. Адміністрацыя турмаў адмаўляе перадаваць вязьням перадачы, гэта ж ў сваю чаргу сьведчыць, што людзі знаходзяцца ледзь не ў поўгалодным стане. Акрамя гэтага асуджаных часта без тлумачэньняў і абгрунтаваньняў ізалююць ад родных і блізкіх, адмаўляюць ім ў сустрэчах. Частаназіраецца, што раптоўна перапыняецца перапіска, родныя і блізкія перастаюць атрымліваць хоць нейкія зьвесткі ад вязьняў. І пры гэтым незаконна абмяжоўваецца доступ адвакатаў да сваіх падабаронных. І робіцца гэта з мэтай прымусіць палітвязьняў напісаць прашэньне аб памілаваньні на імя дыктатара. Ну і канечне, для таго, каб “перавыхаваць” гэтых людзей, каб яны, пасьля турмы, як мінімум не займаліся палітычнай дзейнасьцю.*

**- Але ж нават калі ўлады і атрымліваюць ад вязьняў прашэньні аб памілаваньні, не значыць, што вязень будзе хутка на волі. Навошта такія захады?**

**Натальля Радзіна:** *Абсалютна так. Бо паводле заканадаўства Аляксандр Лукашэнка мае права памілаваць асуджанага без аніякага прашэньня, ці звароту. Але выглядае, што для дыктатара гэта вельмі важна. Відавочна для таго, каб да яго зьвярталіся, каб былі звароты. Відавочна, што гэта сама меней – зьдзек, інакш нельга гэта назваць. І пра гэта трэба казаць на ўвесь сьвет. Агучваць, што адбываецца ў турмах з палітычнымі вязьнямі. Бо за кратамі яны аказваюцца зусім безабароннымі. Зь імі можа ў любы момант здарыцца што заўгодна, ў тым ліку і нават забойства.*

**- Для кіраўніцтва краіны гэта ўжо нават не асобы, але “тавар” для гандлю, для дэманстрацыі сваёй сілы і магутнасьці?**

**Натальля Радзіна:** *Так, дыктатар Аляксандр Лукашэнка заўсёды гандляваў людзьмі. Гэта такі своеасаблівы “гандаль рабамі” ў дваццаць першым стагоддзі, ды яшчэ ў самым цэнтры Эўропы. Людзей кідаць за краты, там ўсякімі спосабамі спрабуюць зламаць чалавека, ужываючы катаваньні, зьдзекуюцца зь іх. Пазьней жа Лукашэнка даволі выгадна прадаваў гэтых жа людзей Захаду ў абмен на пэўныя прэферэнцыі, альбо за адмену санкцыяў. Гэтае ж адбываецца і зараз. Вось, напрыклад, мы ўсе зь нецярпеньнем чакаем вызваленьня Зьмітра Дашкевіча. І хачу адзначыць, што яго вызваленьне падаецца ледзь не як датэрміновае. Выглядае, што ледзь не крок добрае волі дыктатара. Але ж Зьміцер Дашкевіч адбывае дадатковы тэрмін. На які яго незаконна асудзілі, падчас таго, як ён ўжо быў за кратамі, асуджаны за іншую справу.*

**- Якім тады чынам павінны будаваць сваю палітыку ў стасунках з афіцыйным Менскам краіны Эўразьвязу?**

**Натальля Радзіна:** *Тут нельга казаць пра амаральнасьць Захаду – гэта няправільна. Праблема і пытаньне менавіта ў тым, што ў Захада няма канкрэтнай, акрэсьленай стратэгіі ў адносінах да рэжыму Лукашэнкі. Ёсьць паўмеры, але няма пасьлядоўнай стратэгіі, што рабіць з гэтым рэжымам у цэнтры Эўропы. Хоць абсалютна зразумела, што дыктатар разумее толькі і выключна сілу. І калі б Эўразьвяз працягнуў ўвядзеньне санкцый, гэтак жа, як было напярэдадні вызваленьня Андрэя Саньнікава і Зьмітра Бандарэнкі, а іх вызваленьне стала перадусім менавіта вынікам ўзмацненьня санкцый, то ўсе палітвязьні ўжо былі б на волі. Для гэтага патрэбен працяг санкцый ў дачыненьні да рэжыма і блізкага атачэньня Лукашэнкі. Але замест гэтага пачынаецца гандаль. Захад прыпыніў палітыку ўвядзеньня далейшых санкцый. Цяпер наагул бачым, што некаторыя санкцыі ўвогуле пачынаюць адмяняцца, ў тым ліку і ў адносінах да міністра замежных справаў Беларусі Уладзімера Макея. І мы зноў вяртаемся да сытуацыі “гандлю”, калі на кон пастаўлены жыцьці людзей.*

**Але калі ёсьць ўсьведамленьне і разуменьне гэтага, то чаму сытуацыя ізноў паўтараецца?**

**Натальля Радзіна:** *Сытуацыя такая, што перадусім стаіць вызваленьне людзей. Неабходна, каб ўсе вязьні былі вызваленыя. Я ўжо казала, што іх і здароўю, і нават іх жыцьцям пагражае сур’ёзная небясьпека. Але варта ўсьведамляць і пра тое, што будзе ў краіне далей, што будзе з правамі чалавека. А далей не павінен ізноў распачацца дыялог з Лукашэнкам, з прадстаўленьнем яму нейкіх прэфэрэнцый, зьняцьцё санкцый, або выдзяленьне крэдытаў. Далей павінна быць выстаўленае жорсткае патрабаваньне спыненьня, поўнага спыненьня ўсіх рэпрэсій супраць іншадумства. І калі гэтага не адбудзецца, то сытуацыя ў краіне не зьменіцца. І гэта мы бачым зараз. Таму што пасьля вызваленьня адных палітвязьняў, праз некаторы час за кратамі аказваюцца іншыя апаненты рэжыму і гэтая сумная гісторыя працягваецца ўжо ў краіне дваццаць апошніх гадоў.*



## Роберт Тышкевіч: У польскім Сейме - абсалютная згода па Беларусі



**Інфармацыйныя кампаніі, акцыі, падтрыманне – захады, якія грамадзянская супольнасць праводзіць у падрымку палітычных вязняў у Беларусі. А якія яшчэ захады патрэбныя? Што рабілі польскія палітыкі ў савецкія часы, калі за кратамі таксама ў гэтай, цяпер дэмакратычнай краіне былі палітычныя вязні? На гэтае ды іншыя пытанні сайту palitviazni.info адказвае Роберт Тышкевіч віцэ-старшыня Камісіі па замежных справах Сейма Польшчы, кіраўнік парламенцкай групы па Беларусі.**

**Роберт Тышкевіч:** *Для палітвязьняў найважней з'уляецца людская салідарнасць нават у самых малых і падаецца дробных справах. Перадусім гэта апекаванне над сям'ёй вязьня, над дзецьмі. Юрыдычная дапамога, таксама і матэрыяльная! Таму што вельмі важна, каб палітвязень, які ізаляваны ў турме адчуваў, што яго сям'я не пакінута, што з яго блізкімі ўсё ў парадку. І гэта бадай самае галоўнае. Насутпнымі важнейшымі аспектамі з'яўляецца палітычнае салідарнасць і падтрымка. Тут я маю на ўвазе розныя публікацыі, акцыі з патрабаваннем вызвалення. Нават нягледзячы на ізаляцыю, інфармацыя аб гэтым ўсё-роўна даходзіць за краты і каласальна ўмацоўвае маральны дух палітычнага вязня. Ну і апошнім момантам з'яўляецца міжнародная падтрымка. Прэсінг на ўлады з патрабаваннем вызвалення палітвязняў. Гэта наш польскі досвед, але цяпер гэта ўжо ўніверсальныя моманты, якія датычацца любой краіны, любога палітвязня ў тым і Беларусі.*

**- Як часта беларускае пытанне падымаецца падчас паседжанняў у Польскім Сейме, ці абмяркоўваецца сітуацыя з палітвязнямі ў Беларусі, і як Сейм Польшчы можа аказваць ціск на беларускія ўлады з патрабаваннем вызвалення вязняў сумлення?**

**Роберт Тышкевіч:** *Сапраўды, мы прыкладваем намаганні, каб як найчасцей размаўляць пра гэта. Канечне, нейкія заканадаўчыя акты, звароты, яны часцей за ўсё ўзнікаюць падчас нейкага здарэння, якое не можа польскі Сейм праігнараваць. Штодзённа гэта не адбываецца. Але мы вядзем працу з рознымі партыямі, каб стварыць сапраўдную фракцыю, каб сабраць большасць і спрасціць працу пры прыняцці рашэнняў аб дапамозе беларускай грамадзянскай супольнасці, а перадусім пацярпелым ад палітычнага перасльяду. У цэлым намаганні Камісіі Сейму накіраваны на тое, каб тэма палітычных вязняў ў тым ліку, не адышла на другі план і не забылася. Акрамя гэтага мы часта размаўляем пра сітуацыю з правамі чалавека з нашымі замежнымі партнёрамі. Нядаўна былі перамовы з прадстаўнікамі Французскага парламенту...*(цалкам інтэрв'ю на сайце **palitviazni.info**)

## Яцэк Пратасевіч: Еўразвяз спадзяецца на вызваленне палітвязняў



**Віцэ-прэзідэнт Еўрапейскага парламента Яцэк Пратасевіч перакананы, што цяпер для наладжвання стасункаў з афіцыйным Менскам крок павінны зрабіць чыноўнікі Беларусі. І гэты крок – вызваленне палітвязняў. Часу ў афіцыйнага Менску не так і шмат. Палітык больш падрабязна пракаментаў чаканні сайту Palitviazni.info.**

**- Ці змянілася нейкім чынам пазыцыя Еўразьвяза цягам а пошняга часу ў адносінах таго, што ў Беларусі да гэтага часу за кратамі вязьні сумленья?**

**Яцэк Пратасевіч:** *Не, дакладна не зьмянілася! Мы патрабуем ад афіцыйнага Менску поўнага вызвалення і рэабілітацыі палітычных вязьняў!*

**- Як часта наагул тэма палітвязняў уздамаецца ў Еўразвязе, у Еўрапарламенце?**

**Яцэк Пратасевіч:** *Апошнім часам гэтая тэма надзвычай актуальная. Толькі на мінулым тыдні ў Еўрапарламенце адбылося пасяджанне падкамісіі па правах чалавека, і менавіта аб сітуацыі з палітычнымі вязнямі ў Беларусі вялася ў большай ступені размова. Акрамя гэтага я асабіста сустракаўся з прадстаўнікамі праваабарончай арганізацыі "Вясна". Ад беларускіх праваабаронцаў я атрымаў даклад аб сітуацыі з правамі чалавека. Гэты дакумент я асабіста перадаў Спецыяльнаму прадстаўніку Еўразьвяза па правах чалавека Стаўрасу Ламбірыніідзісу. Акрамя гэтага скажу, што ад палітычнай сітуацыі, ну і безумоўна, ад палітвязнях мы вялі размову падчас пасяджэння парламенцкай дэлегацыі ў стусунках з Беларуссю, якое адбывалася на мінулым тыдні. Гэта такая кароткая справаздача, што было зроблена. А вось наперадзе мы плануем ізноўку вярнуцца да сітуацыі з вязнямі сумлення ў Беларусі падчас абмеркавання дакладу еўрадэпутата Юстаса Палецкіса. Неўзабаве павінна адбыцца галасаванне па гэтым дакумецне падчас пасяджэння камісіі па замежных справах. І скажу, што пасля зменаў у дакладзе тэма палітвязняў – адна з ключавых!*

**- Міністр замежных спраў Уладзімір Макей атрымаў магчымасць ўезду у краіны Еўразвязу. Ці прадстаўнікі ЕЗ будуць патрабаваць ад чыноўніка наўпрост вызвалення палівязняў?**

**Яцэк Пратасевіч:** *Шасцімесячнае замарожванне некаторых санкцый у дачыненні да міністра Макея паспрыяе размовам на вышэйшым палітычным узроўні, які рэпрэзентуе міністр. І вынікум гэтых размоваў павінна рашэнне афіцыйнага Менска аб вызваленні палітвязняў! Толькі тады рашэнне аб прыпыненні санкцый стане мецъ сэнс! І я жадаю, каб сапраўды гэта было такім чынам...*(цалкам інтэрв'ю на сайце **palitviazni.info**)

## Алесь Бяляцкі напісаў успаміны пра падзеі, зьвязаныя з арыштам

**Заканчваецца праца над сэрыяй успамінаў старшыні "Вясны" Алеся Бяляцкага, якія зьвязаныя зь ягоным арыштам ў 2011 годзе.**

Пра гэта "Свабодзе" паведаміла праваабаронца **Алёна Лапцёнак** зь "Вясны":

*"Гэта ўспаміны, разважаньні, пэўны аналіз тых падзеяў, якія папярэднічалі ягонаму арышту. Там ідзе і пра падзеі 19 сьнежня 2010 году, і праператрусы ў „Вясьне", якія адбыліся неўзабаве. Вельмі цікавыя ўспаміны, тым больш цікава азнаёміцца зь імі тым, хто ў іх удзельнічаў — бо ў Алеся свой, вельмі арыгінальны позірк. Ён даслаў мне апошні кавалак гэтых успамінаў, і зараз ідзе іх падрыхтоўка да друку — спачатку ў інтэрнэце, а потым, магчыма, і асобнай кнігай. У дадзены момант чакаю ад яго канчатковых заўваг на тое, што ўжо мной зроблена зь ягонымі лістамі. Верагодна, што першыя часткі ўспамінаў зьявяцца ў інтэрнэце яшчэ да 4 жніўня — дня, калі 2 гады таму Алеся арыштавалі".*

Сёлета з друку выйшаў зборнік літаратуразнаўчых артыкулаў Алеся Бяляцкага "Асьвечаныя Беларушчынай". Частку артыкулаў гэтай кнігі склалі творы, напісаныя ў бабруйскай калёніі, дзе трымаюць вядомага праваабаронцу.

Алесь Бяляцкі асуджаны на 4,5 году зьняволеньня паводле абвінавачаньня ў утойваньні прыбыткаў з-за мяжы. Праваабаронца даводзіў у судзе, што атрыманыя ім грошы ішлі на падтрымку ахвяраў палітычных рэпрэсій у Беларусі. Дэмакратычная грамадзкасьць краіны, праваабаронцы сьвету патрабуюць ад беларускіх уладаў вызваленьня Алеся Бяляцкага, якога лічаць палітычным вязьнем.

***svaboda.org***

## Валянцін Стэфановіч: "З трыбуны ААН гучалі імёны беларускіх палітвязьняў"

**4 чэрвеня на 23-й Сесіі Рады па правах чалавека ААН у Жэневе абмяркоўваўся даклад спецыяльнага дакладчыка ААН па сітуацыі ў Беларусі Мілаша Харашці. Мы папрасілі падзяліцца ўражаннямі намесьніка старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянціна Стэфановіча, які браў непасрэдны ўдзел у гэтым абмеркаванні.**

- Я прысутнічаў на паседжаннях структураў ААН ужо не першы раз. Звычайна, калі пачынаецца абмеркаванне справаздачаў па беларускай сітуацыі, усе ўдзельнікі падзяляюцца на дзьве часткі. "Сябры Беларусі" кажуць, што даклад заснаваны на непраўдзівых зьвестках, што сітуацыя з правамі чалавека нармальная, што Еўразьвяз спрабуе навязаць іншым сваю ўласную мадэль разьвіцця дэмакратыі. Краіны ж Еўрасаюзу, а таксама ЗША, выказваюць іншае меркаванне: што даклад утрымлівае праўдзівую інфармацыю, што правы чалавека ў Беларусі парушаюцца. Прадстаўнікі гэтых краінаў патрабавалі вызваліць палітвязьняў, у часе выступаў называліся прозьвішчы і Бяляцкага, і Статкевіча, і іншых зьняволеных. Вельмі важная пазіцыя Расіі, але Расія мае на нашу сітуацыю своеасаблівы погляд: што ў Беларусі не адбываецца нічога крытычнага і ніякіх спецдакладчыкаў па нашай сітуацыі не трэба.

Некаторыя дэлегацыі не падтрымалі спецдакладчыка таму, што не ўсе краіны любяць спецыяльныя механізмы ААН. Хоць і прызнаюць, што з правамі чалавека ў Беларусі не ўсё добра. Напрыклад, Бразілія, якая зараз не выказала падтрымкі, галасавала супраць, але ў той жа час падтрымала сакавіцкую рэзалюцыю ААН, у якой гаворыцца пра фінансаванне няўрадавых арганізацый з-за мяжы. Бразілія лічыць, што найперш праваабарончыя арганізацыі маюць права на атрыманне дапамогі, але пры гэтым не падтрымлівае мандату сьпецдакладчыка. У той жа час іншыя краіны таго самага рэгіёну ставяцца да праблемы парушэнняў правоў чалавека ў нашай краіне з большым разуменнем. Прыкладам, Аргентына і Уругвай, якія сыходзяць з уласнага гістарычнага досьведу. Гэты досьвед вельмі сумны. Скажам, у Аргентыне адбываліся страшныя падзеі. Зараз там праходзяць судовыя працэсы супраць кіраўнікоў хунты, якая кіравала краінай з 1976 па 1983 гады. У той час тысячы людзей зьніклі бяз вестак, у сем'яў апазіцыянераў забралі сотні дзяцей… Праз шмат гадоў людзі запатрабавалі пакараць вінаватых (цалкам інтэрв'ю на сайце **palitviazni.info**)